Алена Мальчэўская

# Ша-ша з левага чаравіка

*Казкі*




МІНСК
ВЫДАВЕЦКІ ДОМ
«ЗВЯЗДА»
2014

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
М21

*Серыя заснавана ў 2014 годзе*

Мастак
*Таццяна Дзівакова*

*Для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту*

**Мальчэўская, А. А.**
М21 Ша-ша з левага чаравіка : казкі : для дзяцей мал. і сярэд. шк. узросту / Алена Мальчэўская ; маст. Таццяна Дзівакова. — Мінск : Звязда, 2014. — 32 с. : іл. — (Вясёлы калейдаскоп).
ISBN 978-985-575-005-6.

Хто варушыцца ў левым чаравіку? Колькі сланоў можа змясціцца ў звычайным пакоі? Што такое таямніцы і чаму іх варта захоўваць? Як правільна боўтаць нагамі і спяваць словы ў лесвічныя пралёты? На гэтыя пытанні спрабуюць знайсці адказы героі казак Алены Мальчэўскай. Шчаслівыя людзі, шытыя сланы і пухнатыя госці распавядаюць меншым чытачам і нагадваюць большым, што жыццё ёсць цуд…

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

Вясёлы калейдаскоп

**МАЛЬЧЭЎСКАЯ** Алена Аляксандраўна

**ША-ША З ЛЕВАГА ЧАРАВІКА**

*Казкі*

Рэдактар *Т. А. Кухарская* Мастацкі рэдактар *В. Г. Паўлавец*
Камп'ютарная вёрстка *Н. В. Урбановіч* Стыльрэдактар *Т. А. Кухарская*

Падпісана ў друк 16.12.2014. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 2,60. Ул.-выд. арк. 1,55.
Тыраж 1600 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы,распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.

**ISBN 978-985-575-005-6**

# Вера і шытыя сланы

## ДОКТАР ВЕРА

У Веры чатыры сланы. Вы, напэўна, думаеце, што Вера працуе дрэсіроўшчыцай у цырку? Не, яна працуе доктарам у паліклініцы. Афтальмолагам. Ці акулістам. Каму як больш падабаецца.

Вера зазірае людзям у вочы і шмат што пра іх даведваецца. Напрыклад, што чалавек хворы на кан'юктывіт. Ці тое, што чалавеку трэба насіць акуляры. Гэтаму — у тлустай чорнай аправе, яна будзе больш пасаваць да формы твару. А гэтаму — з круглымі шкельцамі. Вера ўжо некалькі год зазірае людзям у вочы, таму мае вопыт і можа сказаць не толькі пра іх хваробы, але і заўважыць, што чалавек закаханы. Ці несумленны. Ці вельмі вясёлы. Ці вельмі разумны.

Вера шмат чаго можа заўважыць па вачах, але пры чым тут сланы? Ні пры чым. Проста жывуць у Веры і ўсё. Але дзе жывуць? У яе кватэры, у пакоі з сінімі шпалерамі. З такім колерам шпалераў, канечне, лагічней было б, каб у Верыным пакоі жылі рыбы, але жыццё ніколі не бывае дасканалым — і ў маленькім пакойчыку пасяліліся сланы...

Чакайце-чакайце! (Тут чытач павінен так жа падазрона паглядзець на аўтара, як часам Вера глядзіць на сваіх пацыентаў.) А як столькі сланоў змяшчаецца ў маленькім пакойчыку? Вельмі лёгка! І месца яшчэ застаецца — хоць у футбол гуляй. Справа ў тым, што ў Веры жывуць шытыя сланы. І ў кожнага свая гісторыя...

# Слон, які заўсёды спіць

Першага шытага слана — з кішэнькай на жывоціку, кветачкамі на вушах і то-о-ненькімі вейкамі — Веры падарылі на дзень народзінаў. Слон спаў у скрыначцы на маленькай падушачцы і не збіраўся прачынацца. На трэці дзень Вера зразумела, што гэта слон, які заўсёды спіць.

«Эх! Значыць, я не змагу паглядзець яму ў вочы. Значыць, я шмат што пра яго не зразумею», — уздыхнула Вера.

Я ўжо сказала вам, што жыццё бывае недасканалым, калі апісвала шпалеры і насельніцтва Верынага пакоя. Але часам нам гэта толькі падаецца. Ну вось скажыце, ці лагічна прыносіць чалавеку, які лепш за ўсё разбіраецца ў вачах, слоніка, у вочы якому ён зазірнуць не зможа? Я лічу, што лагічна. Таму што чалавек павінен не толькі развіваць свае лепшыя якасці, а яшчэ і адкрываць у сабе нешта новае, узгадваць пра сёе-тое.

Такім чынам, апроч вачэй і таго, што ў іх стаілася, Вера ўзгадала пра тое, як яна вучыла гісторыю ў школе. У пятым класе настаўнік распавёў ім пра Старажытны Егіпет. Там побач з памерлым ставілі невялічкія фігуркі — ушэбці. Часцей за ўсё ушэбці трымалі ў руках прылады працы, каб на тым свеце працаваць за гаспадара і пракарміць яго.

Не-не-не, усё добра, Вера была жывая, здаровая і паміраць не збіралася. Проста часта недасыпала. «А што калі гэтага слана падарылі мне, каб ён спаў за мяне? Амаль як ушэбці», — падумала Вера, папраўіла пад яго галавой маленькую падушачку, закрыла скрыначку і паставіла яе на кніжную шафу. А потым сапраўды заўважыла, што пачала высыпацца...

І вось аднойчы раніцай Вера ехала на працу ў метро. Раніцай у метро шмат сонных людзей. Так шмат, што яны робяцца незаўважнымі. Значна больш увагі дастаецца тым, хто, напрыклад, танцуе ў навушніках, чакаючы цягнік. Сонная Вера заўсёды думала пра такіх няўрымслівых пасажыраў: «Адкуль у іх столькі энергіі?» Але гэтай раніцай Вера была выспаўшыся і звярнула ўвагу на чалавека, які драмаў.

Насупраць Веры сядзеў лысы мужчына і драмаў. «Ах! Як ён падобны да майго слана!» — падумала Вера і два прыпынкі не магла адвесці вачэй ад гэтага чалавека. Раптам яе позірк сутыкнуўся з позіркам цётачкі ў барвовым паліто. Позірк цётачкі выразна паведамляў: «Непрыстойна так разглядаць незнаёмага чалавека!» Веры нават падалося, што калі б цётачка магла, то падышла і сказала б пра гэта Веры на вуха, але цётачцы перашкаджалі дзве вялізныя сумкі ля ног.

Вера апусціла вочы долу і задумалася пра тое, як сказаць мужчыне, што ён падобны да яе слана. Можа быць, напісаць яму запіску і падсунуць у кішэню заплечніка, які ён трымае ў руках? Ці ехаць да патрэбнай яму станцыі, выйсці з цягніка і расказаць пра ўсё на платформе?

Але тут Вера ўявіла сабе, як гэта будзе выглядаць. «Добры дзень! — скажа яна гэтаму чалавеку. — Вы падобны да майго шытага слана, які увесь час спіць!» А мужчына возьме і пакрыўдзіцца, бо мае іншае ўяўленне пра сланоў: яны з дзяцінства падаваліся яму самымі непрыгожымі жывёламі ў свеце. Ці абурыцца: «Што вы з мяне здзекуецеся, у мяне маленькая дачка, толькі-толькі нарадзілася, яна плача ноччу, і я не магу спаць!»

І Вера вырашыла нічога гэтаму чалавеку не расказваць. Яна яшчэ раз незаўважна для цётачкі ў барвовым паліто паглядзела на мужчыну і раптам… зразумела, што калі ён расплюшчыць вочы, то адразу перастане быць падобным да слана, бо той заўсёды спіць. Вера так спалохалася, што выйшла на дзве станцыі раней, чым трэба, і дачакалася наступнага цягніка — абы толькі слон-спадарожнік не расплюшчыў вочы. Але той спакойна драмаў, трымаючы на каленях заплечнік…

Той раніцай Вера прыйшла на працу на восем хвілін пазней, чым павінна. І высокая хударлявая намесніца галоўнага ўрача Антаніна Станіславаўна доўга вычытвала яе за спазненне. А Вера маўчала, бо не станеш жа распавядаць Антаніне Станіславаўне, што ў метро пачалі ездзіць людзі, падобныя да шытых сланоў.

Той раніцай Вера зразумела, што на свеце ёсць таямніцы, якія павінны заставацца таямніцамі. І калі слон спіць, то не трэба старацца зазірнуць яму ў вочы. А калі нейкі чалавек да яго падобны, то не варта пра гэта яму казаць. І калі некуды спазняешся — не заўсёды раскажаш чаму. Бо ёсць рэчы, якія нельга ўбачыць і патлумачыць. Да іх, безумоўна, не адносіцца тое, як вы з Валеркам выпадкова скінулі з акна вазон з любімай мамінай кветкай, ці тое, як разам з мульцікамі скачалі на бацькавы камп’ютар яшчэ і вірус. Але калі вы ведаеце нешта такое… ну такое… напрыклад, што лысіна ў вашага настаўніка фізкультуры блішчыць, як лямпачка, а з цукеркі «Чырвоны каптурок» лепш спачатку з’есці вафлі, а толькі потым усунуць у рот начынку, то цс-с-с…

# СЛОН, ПРА ЯКОГА НЕ ВЕДАЕ ЛЁНІК

Некаторыя Верыны сябры кажуць, што яна ўсё прыдумляе і што ніякіх таямніц і ніякага «цс-с-с...» у жыцці не існуе — усё можна патлумачыць. Такім упартым Вера паказвае свайго другога шытага слана — Лёніка.

Лёніка Вера пашыла сама. Аднойчы ёй стала сумна, што слонік з кішэнькай на жывоціку ўвесь час спіць. І яна пашыла сабе яшчэ аднаго. Белага. У кветачкі. А самае галоўнае — з вачамі-гузікамі. Да выбару вачэй Вера падышла грунтоўна. Доўга хадзіла па крамах і пільна ўглядалася ў гузікі на вітрынах поглядам афтальмолага. У рэшце рэшт, Вера выбрала для слана маленькія чорныя вочкі, каб ён быў дабрадушным і цікаўным.

Нейкі час слон быў проста сланом. Вера так і называла яго — слон. Але неяк вясной у госці да Веры завітала сяброўка Іра. Іра працавала стаматолагам і любіла пагаварыць пра сваю працу. Асабліва часта яна расказвала пра свайго калегу Леаніда Фёдаравіча. Праўда, Іра ніколі не казала Леанід Фёдаравіч, а называла яго Лёнік. Веры вельмі падабалася, як яна прамаўляла: мякка выштурхоўвала з вуснаў — Лёнік.

Лёнік быў паўнаватым і вясёлым маладым чалавекам. Ён працаваў дзіцячым стаматолагам і ўмеў пераканаць малога, што доктара няма чаго баяцца. Нават калі ў яго руках бормашына.

Вера ніколі не бачыла Лёніка на свае вочы, але ведала пра яго шмат гісторый. Іра распавядала ёй пра тое, як Лёнік пачаў даганяць шасцігадовага хлопчыка, якому трэба было вырваць малочны зуб, на першым паверсе, а скончыў на чацвёртым. Пакуль

яны бегалі па паліклініцы, хлопчык моцна націснуў на зуб языком — і той выпаў сам.

Ці пра тое, як адна дзяўчынка ўкусіла Лёніка за палец ужо пасля таго, як ён залячыў ёй зуб. Цэлы дзень яна думала: «Калі будзе балюча, я ўкушу доктара за палец». Але ж Лёнік быў вельмі асцярожным, таму балюча яму не было. Дый часам бывае так: задумала — і трэба абавязкова гэта спраўдзіць. Ну, вось задумаеш, што трэба пераскокнуць гэтую лужыну, а потым узгадаеш, што маці сёння апранула цябе ў прыгожую сукенку, бо ў школе ранішнік. Дый позна — ты ўжо ляціш. А праз імгненне спрабуеш адцерці бруд з падола насоўкай і рукамі... Так было і з пальцам Лёніка — пацярпеў ні за што. Доктар вельмі асцярожна залячыў дзяўчынцы зуб, а яна ўсё роўна ўкусіла, бо цэлы дзень думала, што трэба гэтага страшнага доктара пакусаць...

Самай любімай у Веры была гісторыя пра Лёніка і мыш. Аднойчы да Лёніка прыйшоў хлопчык Пеця. Лёнік пачаў лячыць Пецін зуб і раптам з кішэнькі клятчастай кашулі хлопчыка высунулася галава... мышы. Пеця вельмі любіў усялякіх жывёл. Дома ў яго жылі сабака, дзве коткі, папугайчык і мышка. Мышку ён часта насіў з сабой у кішэнях. Узяў і да стаматолага, каб не баяцца. Аднак, па-першае, мышка высунула галаву вельмі нечакана. А па-другое, ніхто ў паліклініцы не мог і падумаць, што дарослы доктар, якога пацыенты называлі Леанід Фёдаравіч, баіцца мышэй. Ад нечаканасці ды страху Лёнік заскочыў на стол і адмаўляўся адтуль злазіць, пакуль мама хлопчыка не забрала мышку, сказаўшы, што яны разам пачакаюць Пецю ў калідоры.

Гэта гісторыя пераканала Веру ў тым, што яе шытага слана трэба назваць у гонар Лёніка. Яны заўсёды

здаваліся ёй нечым падобнымі. А гісторыя пра мышку стала апошнім аргументам. Вы ж ведаеце, што вялікія сланы баяцца маленькіх мышак. Напраўду баяцца, таму што мышкі могуць пагрызці ногі слану, а гэта, пагадзіцеся, вельмі непрыемна і, падазраю, балюча.

Чаму баяўся мышак урач стаматалагічнай паліклінікі Леанід Фёдаравіч Мінкоў, мы, канечне, не ведаем. А ён не ведае, што на свеце жыве шыты слон Лёнік, названы ў гонар яго. Але ж вы памятаеце, што на свеце павінны быць таямніцы. І калі нехта з Верыных сяброў у гэта не верыць, Вера паказвае ім слана і распавядае гісторыю яго імя. Гісторыю яна абавязкова завяршае пытаннем: «А можа, і ў гонар вас каго-небудзь назвалі, а вы не ведаеце?» Сябры чухаюць патыліцы, а Вера пасміхаецца: «У свеце павінны быць таямніцы». І прыкладае палец да вуснаў: «Цс-с-с...»

## СЛОН, ЯКІ ВАНДРУЕ І ТАНЦУЕ

Яшчэ аднаго слана ў блакітныя кветачкі (шытых сланоў без кветачак, здаецца, не існуе) Веры падарыла Адэля. З-за Адэлі свет Веры стаў шырэйшым.

Што гэта значыць?

Мы прызвычаіліся існаваць у добра знаёмым нам свеце. Прачынаемся, чысцім зубы, снедаем, выходзім на працу ці ў школу і рухаемся звыклым маршрутам па даўно знаёмых нам вуліцах. Працуем, вучымся, вяртаемся дахаты.

Але часам у нашым жыцці нешта здараецца. Напрыклад, раніцай трэба пайсці не ў школу, а ў паліклініку, да афтальмолага, за даведкай. І мы

ідзём ужо зусім па іншых вуліцах, пад'язджаем на тралейбусе, а не на трамваі. І раптам заўважаем нешта новае, часам нават здаецца, што трапляем у новы горад, бо ніколі не праходзілі праз гэты двор і не бачылі гэтага дома. Так часам парушэнне нечага звычайнага, напрыклад, раскладу дня, робіць свет вакол нас шырэйшым.

Ці вось, напрыклад, наша цела. Здаецца, што пра яго мы ўсё дакладна ведаем. Вось наша рука. Вось наша нага. Мы ведаем, на што мы здольны (напрыклад, скакаць у даўжыню на дзевяць балаў) і на што не здольны (напрыклад, прабегчы стометроўку за дзесяць секунд). І раптам новы навучальны год пачынаецца з таго, што настаўнік фізкультуры (той самы, у якога лысіна блішчыць, як лямпачка) кажа: «Сёння мы будзем рабіць практыкаванні на брусах». І ты глядзіш на дзве гэтыя паралельныя жардзіны і не ўяўляеш нават, як да іх падысці, а не тое, каб нешта на іх зрабіць. А потым настаўнік тлумачыць, паказвае. І вось тваё цела падскоквае, перакульваецца і робіць на брусах стойку. Калі ты даведваешся пра сябе нешта, чаго раней не ведаў і нават не мог уявіць, свет таксама становіцца шырэйшым...

Дык вось, аднойчы на медаагляд да Веры прыйшла маладая жанчына з вясёлымі вачамі. Вочы былі такія файныя, што Веры нават у даведцы хацелася напісаць «вельмі вясёлыя вочы», а не зрабіць стандартную пазнаку «здаровая».

Жанчына з вясёлымі вачамі забрала даведку і раптам запыталася ў Веры: «А вы ніколі не займаліся танцамі? У вас добрая фігура і вы хораша рухаецеся па кабінеце».

Вера здзіўлена паглядзела на яе і сказала: «Н-не, ніколі...»

«Шкада, — прамовіла жанчына. — Мне здаецца, у вас бы добра атрымалася. Калі захочаце паспрабаваць, прыходзьце ў наш палац культуры. Я вяду там гурток танцаў для дарослых».

Вера думала над прапановай жанчыны цэлы тыдзень. Дзяўчына саромелася і баялася: «Я ж ніколі не танцавала, ну, хіба што на ранішніку... Ды я ж рухаюся як слон!» За тыдзень развагаў Вера ўсё ж такі пераканала сябе ў тым, што варта паспрабаваць танцаваць і пасля працы пайшла ў палац культуры.

Жанчыну з файнымі вачыма звалі Адэляй. Адэля навучыла Веру танцаваць кубінскую сальсу і аргенцінскае танга. І свет раптам стаў шырэйшым.

Вера зразумела, што яе цела можа рухацца так, як не рухалася ніколі раней. І падчас гэтага руху нейкія рэчы, якім некалі надавалася не так шмат увагі, станавіліся для Веры больш заўважнымі (напрыклад, Верыны ногі і рукі). А нейкія — менш (напрыклад, што скажуць ці падумаюць іншыя).

Веры падабалася ведаць, што недзе далёка-далёка існуюць такія краіны — Куба і Аргенціна. І яна ўмее танцаваць танцы гэтых далёкіх краін — сальсу і танга.

Вера шмат займалася і пачала танцаваць так добра, што заваявала другое месца на спаборніцтвах па танга. У гонар гэтай перамогі Адэля падарыла ёй шытага слана. Гэта быў падарунак-жарт. Ну вось, маўляў, а ўсё казала, што не зможаш, што танцуеш як слон. Вера смяялася і танцавала. А слон у блакітныя кветачкі стаў сімвалам пашырэння свету, бясконцасці новага ў ім. І Вера з таго часу заўсёды брала яго з сабой у вандроўкі (вандраванне ж таксама пашырае свет).

Вера звазіла слана ў Крым на мора, у Санкт-Пецярбург да сяброўкі, у Вільню на канферэнцыю афтальмолагаў і ў Кракаў на чарговы чэмпіянат па танцах.

Слон вандраваў у сумцы, высунуўшы хобат і аглядаючы ўсё навокал. Больш за ўсё яму спадабаўся касцёл Святой Ганны ў Вільні. Вера спадзявалася, што аднойчы яны са сланом паедуць на Кубу ці ў Аргенціну, каб на свае вочы пабачыць сапраўдныя танга і сальсу. Але пакуль што: цс-с-с... Павінны ж быць у свеце таямніцы.

## СЛОН, ЯКІ ЎЦЯКАЕ Ў ПЯТКІ

Апошняга Верынага шытага слана ніхто не бачыў. Нават сама Вера, нягледзячы на тое, што яна афтальмолаг. Хаця яна ўпэўнена, што яго скура таксама аздоблена кветачкамі. Але вось падрабязней распавесці нічога не можа. Чацвёрты Верын слон жыве ўнутры яе.

Аднойчы Вера ніяк не магла прыняць важнае рашэнне: што набыць у падарунак сваёй сяброўцы Іры — сукенку ці піжаму. Яна стаяла ў краме і выбірала. Выбар даваўся ёй так нялёгка, вочы прадаўшчыц нічым не дапамагалі. У іх чытаўся толькі сум: «Такое надвор'е добрае, а мы сядзім у гэтай краме і працуем...» Ад раз-



губленасці Вера падумала: «Вось бы ўнутры мяне жыў нехта маленькі-маленькі, з кім заўсёды можна было параіцца». Уздыхнуўшы, яна выйшла з крамы — час яшчэ ёсць, і заўтра можна будзе прыйсці з кім-небудзь, хто дапаможа выбраць. Але раптам Вера пачула: «Піжаму!» Вера азірнулася навокал. Яна ішла да станцыі метро праз сквер, і побач нікога не было. Вера прысела на скамейку. «Піжаму!» — ізноў пачула яна. Прычым чуваць было неяк дзіўна, нібы ўнутры галавы. Вера пасядзела яшчэ крыху і зноў пачула: «Піжаму!» Яна ўзнялася, вярнулася ў краму і набыла піжаму. У той дзень з ёй больш ніхто не гаварыў. Піжама Іры вельмі спадабалася.

А праз некалькі дзён яна прачнулася раніцай і пабачыла побач з ложкам запіску. «Прывітанне! Я шыты слон. Мяне завуць Гена. Я буду жыць унутры цябе, каб даваць парады ў складаных сітуацыях. Размаўляць са мной нельга, у мяне можна толькі пытацца парады ў складаных сітуацыях. З павагай, шыты слон Гена».

Вера паклала запіску побач з ложкам і пачала сябе абмацваць. Нічога незвычайнага яна не заўважыла: ногі як ногі, рукі як рукі, галава як галава. Потым Вера ўсё ж такі паспрабавала загаварыць са сланом: «Гена, ты тут?» Але ёй ніхто не адказаў...

Спачатку Вера расхвалявалася. Але потым супакоілася, падумаўшы, што гэта пажартаваў нехта з бацькоў. Яна распавядала ім пра выпадак з піжамай. Пажартавалі — і цяпер не прызнаюцца.

Вера пайшла на працу. А калі ў абедзены перапынак зазірнула ў буфет і задумалася ля вітрыны «Піражок ці марожанае?», то зноў пачула аднекуль знутры сябе: «Марожанае». І Вера зразумела, што

шыты слон Гена цяпер напраўду пасяліўся ўнутры яе і дапамагае прымаць рашэнні.

Вера больш нікому не расказвала пра Гену — усё роўна не паверач. Але карысталася яго парадамі, калі не магла нешта вырашыць. Пайсці пешкі ці паехаць на трамваі? Апрануць сукенку ці джынсы і світар? Пайсці ў кіно ці ў госці да Іры?

А яшчэ Вера любіла прачнуцца раніцай і падумаць, дзе ўнутры яе зараз знаходзіцца шыты слон Гена. Калі ёй здавалася, што ў жываце, то яна гладзіла жывот і казала: «Прывітанне, Гена!», калі ў пятцы, то казытала яе і віталася, калі ў галаве, то пацірала галаву і пасміхалася. Вера была ўпэўнена, што ў Гены няўрымслівы характар і ён не можа доўга сядзець на адным месцы.

А яшчэ Вера пачала закаляцца, каб не захварэць. Бо калі хварэеш, заўсёды чыхаеш. І Вера баялася чыхнуць і разам з чыхам выдуць з сябе маленькага шытага слоніка. Таму старалася не хварэць. Ну, на крайні выпадак не чыхаць.

Веры страшэнна падабалася, што ўнутры яе сядзіць шыты слон і яна заўсёды можа да яго звярнуцца. Яна, канечне, была самастойнай дзяўчынай і шмат якія пытанні вырашала сама, але калі часам вагалася, Гена заўсёды прыходзіў на дапамогу.

Адзінае пытанне, на якое Гена не адказваў Веры, гэта пра колер кветачак на сваёй скуры. «Сінія ці аранжавыя? Чырвоныя ці жоўтыя? Зялёныя ці фіялетавыя?» — часта пыталася яна. Але ў адказ Гена маўчаў і думаў: «Цс-с-с... Павінны ж быць у свеце таямніцы»

Вось так жыве Вера са сваімі сланамі. Я распавяла вам пра іх, і цяпер вы шмат чаго ведаеце. Напрыклад, што дзеля таго, каб нешта ўбачыць, зусім не абавязкова працаваць афтальмолагам, трэба проста ўважліва глядзець навокал. Ці тое, што свет не бывае дасканалым. Але можа быць вузкім і шырокім. Ці тое, што мы не можам ведаць усё на свеце. Але калі мы хочам даведацца нешта новае і нават надзвычайнае, мы мусім завесці сабе ці атрымаць у падарунак шытага слана (ці нават некалькі шытых сланоў), з якім у нас абавязкова з'явіцца агульная таямніца. Цс-с-с... У жыцці павінны быць таямніцы...

# Ша-ша з левага чаравіка

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ,
дзе ў вітальні адбываюцца дзіўныя падзеі

У вітальні нешта зашамацела. Напэўна, прадукты вываліліся з пакета. Я толькі што вярнулася з крамы і не паспела разабраць пакупкі, таму што села чытаць Вельмі Важны Ліст, які мне даслалі з Самай Далёкай Краіны па электроннай пошце.

Я падумала: спачатку прачытаю ліст, а потым пагляджу, што там звалілася. Але ўзгадала пра марожанае. Марожанага было шкада. Па-першае, яно магло растаць і расцекчыся па пакеце, а па-другое, на яго пэўна навалілася курыца і вось-вось расцісне. Ну, глазура дакладна патрэскаецца. А што за радасць — есці марожанае з глазурай, якая патрэскалася?

Я ўздыхнула, паднялася з-за стала і пайшла ратаваць марожанае.

Пакет з прадуктамі стаяў ля дзвярэй, з яго нічога не вывалілася. Курыца і пламбір ляжалі ў правільным парадку на тых самых месцах, дзе я іх і пакідала.

А вось у маім левым чаравіку нехта капашыўся.

— А-а-а! Пацук! — закрычала я і ўскочыла на паліцу для абутку.

Я біёлаг. Пацукоў і мышэй не баюся зусім. І скакала дарэмна. Ад нечаканасці проста. Ніколі ж не падумаеш, што нехта пачне корпацца ў тваім левым чаравіку.



## ЧАСТКА ДРУГАЯ,
### у якой Ша-Ша вылазіць з чаравіка

— І зусім не пацук! Дапамажы мне вылезці, — сказаў нехта з чаравіка.

— Як?

У чаравіку зашамацелі больш гучна, чым раней:

— Як-як... Злезь з паліцы і асцярожна патрасі за шнурок.

— Ага, а раптам вы мяне ўкусіце? А раптам вы ядавіты? — на ўсялякі выпадак запыталася я.

Калі ў вітальні адбываюцца дзіўныя падзеі, можна чакаць чаго заўгодна.

— Не вярзі глупства! — у чаравіку былі мной не задаволены.

Я злезла з паліцы і асцярожна кранула насок чаравіка. Потым патрэсла за шнурок. Потым патрэсла мацней — і з чаравіка выкацілася нешта махнатае.

Пухнаты шар спыніўся на сярэдзіне вітальні, стаў на дзве кароценькія ножкі, высунуў дзве пухленькія ручкі і расплюшчыў вочы.



Я падумала, што варта было б ізноў ускочыць на паліцу. Але передумала і засталася сядзець на кукішках ля сваіх карычневых чаравікаў, якія, як высветлілася, я цяпер мушу дзяліць з пухнатым шарам.

Пухнаты стаяў на сярэдзіне вітальні і глядзеў на мяне. Ён быў падобны да джунгарскага хамяка. І да клубка нітак. І да мале-е-енькай падушкі. Пра такіх звяроў я нідзе не чытала і ніколі такіх не бачыла. Значыцца, гэта быў не звер...

Мы ўважліва разглядалі адзін аднаго.
— Зусім я не пацук! — шар, здаецца, пакрыўдзіўся.
— А хто?
— Я Ша-Ша.
— Саша? — перапытала я.
— Не Саша, а Ша-Ша.

Мне стала няёмка: абзываю госця пацуком і не магу запомніць яго імя. Я разгублена азірнулася і ўзгадала пра пакупкі:

— Ша-ша! Пойдземце есці марожнае!

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ,
### у якой Ша-Ша п'е малако, а я вельмі здзіўляюся

Высветлілася, што марожанага Ша-Ша не есць. Ад курыцы (сырой, ці падсмажанай, ці зваранай) ён таксама адмовіўся.

Яшчэ я выклала з пакета: вафлі, банку зялёнага гарошку, хурму, вэнджаную кілбасу, зефір у шакаладзе, яблыкі, грэчку, молаты перац і лімон. Ша-Ша кожны раз насупліваўся і адмоўна круціў галавой.

Я адчыніла халадзільнік. Кароткім пухлым пальчыкам Ша-Ша паказаў на малако і ўсміхнуўся.

Уладкаваць госця аказалася не так проста. Давялося шукаць вельмі маленькі кубачак, каб Ша-Шу было зручна піць. Я ўссадзіла яго адразу на стол, таму што з табурэткі да кубка ён не дацягваўся.



Сабе я ўзяла марожанае, якое ўсё ж такі паспела падтаць, і мы пачалі размаўляць...

Ша-Ша — пухнаты і круглы. Маленькі. Ён вылазіць з левага чаравіка ў розных дамах, каб навучыць таго, хто носіць гэтыя чаравікі, тром рэчам. А калі навучыць — залазіць у правы чаравік, знікае і з'яўляецца ў новай вітальні. У мой чаравік ён залез, вылезшы з чаравіка аднаго паважанага прафесара, якога навучыў піць гарбату з жэлацінавымі цукеркамі, складаць папяровыя самалёцікі і здуваць за адзін раз белую шапачку з адуванчыка.



— А чаму ты збіраешся навучыць мяне? Навошта? — запыталася я, калі Ша-Ша распавёў пра сябе.

Пухнаты ўсміхнуўся:

— Пабачыш.

— Тады мая чарга распавядаць пра сябе, — пачала я.

Ша-Ша перапыніў мяне:

— Пра цябе я і так усё ведаю. З левага чаравіка абсалютна незнаёмага чалавека вылезці нельга.

Я здзіўлена паглядзела на яго.

— Цябе завуць Света, — пачаў распавядаць Ша-Ша. — Табе 26 гадоў. Ты працуеш біёлагам-селекцыянерам. Выводзіш новыя віды водарасцяў для таго, каб лячыць людзей. У дзяцінстве ты любіла чытаць кніжкі пра разведчыкаў і есці піроржныя «Карзіначка». Ты хочаш завесці сабаку. Спаніэля. І пасля таго як атрымаеш заробак, пойдзеш набываць сандалі з тоненькімі раменьчыкамі.

Я папярхнулася марожаным. Адкуль ён усё ведае? Пра сандалі я дакладна нікому не расказвала. Ша-Ша ўсміхнуўся і сказаў:

— Не палохайся. Проста ведаю і ўсё.

Вечарам ціхенька, каб Ша-Ша не заўважыў, я на ўсялякі выпадак пагартала Вялікую Энцыклапедыю. Я не знайшла Ша-Шы ні сярод жывёл, ні сярод чароўных істот, ні сярод герояў казак. Паставіла кнігу назад на паліцу і падумала: цяпер у мяне ёсць сябра, пра якога ніхто не ведае.



## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ,
### дзе мы з Ша-Шам боўтаем нагамі

За тры дні Ша-Ша ні разу не сказаў пра тое, чаму я мушу навучыцца. Ён хадзіў па кватэры, разглядаў ракавіны, якія прывезлі мае сябры-біёлагі з розных мораў і акіянаў. Прасіў, каб я паказала яму кніжкі з карцінкамі. Пакуль я хадзіла на працу, Ша-Ша спаў, накрыўшыся рогам пледа. Ці наводзіў парадак на маіх паліцах. Ці сядзеў на падаконніку побач з вазонам, у якім расла бягонія, і глядзеў на вуліцу.

Я хадзіла на працу. Вырошчвала водарасці. Потым ішла ў краму. Набывала грэчку, тварог, шакаладныя цукеркі сабе і малако Ша-Шу. Прыходзіла дамоў. Мы вячэралі. Потым чыталі Вельмі Важныя Лісты з Самых Далёкіх Краін. У Лістах пісалі пра водарасці, часам пра надвор’е і розныя забаўныя выпадкі…

Неяк я прыйшла дадому. Зняла чаравікі. Вымыла рукі. І ўжо хацела ўключаць камп’ютар, але Ша-Ша раптам сказаў:

— Не, сёння мы не будзем чытаць Лісты, сёння мы будзем боўтаць нагамі.



— Што?

— Мы будзем боўтаць нагамі, — патлумачыў Ша-Ша. — Калі ты апошні раз боўтала нагамі?

— Не памятаю… Увогуле, я не ўпэўнена, што боўтала імі калі-небудзь.

— Шмат хто думае, што нагамі можна толькі хадзіць, у крайнім выпадку бегаць ці скакаць, ну, танцаваць яшчэ, калі вельмі захочацца, — пачаў распавядаць Ша-Ша. — Але час ад часу нагамі трэба боўтаць. Для таго, каб настрой быў добрым. Лепш за ўсё боўтаць нагамі, калі сядзіш на чым-небудзь высокім, і яны не дастаюць да падлогі. Вось глядзі.

Ша-Ша залез на табурэтку, сеў на край — і яго маленькія ножкі замільгацелі.

— А цяпер ты паспрабуй!

Я няўпэўнена села на табурэтку.

— Не, так няправільна. У цябе ногі дастаюць да падлогі. Сядай на стол.

— Я са стала звалюся, ён вунь на адной ножцы стаіць.

— Тады на буфет. На буфет!

— Ша-Ша! Я ўжо вялікая, мне 26 гадоў. Дарослыя не сядзяць на буфеце. У рэшце рэшт, гэта непрыстойна.

— Хопіць размаўляць! Залазь!

На буфет я залезла з другой спробы. Ледзь не разбіла шкляныя дзверцы ў верхняй шафе. Скінула кубак, але Ша-Ша злавіў яго ля самай падлогі.

— Трэба было посуд прыбраць, перш чым лезці, — прабурчэў Ша-Ша. — Цяпер боўтай нагамі!

Я сядзела на ніжняй шафе буфета і ўважліва разглядала свае ногі. Што трэба рабіць далей — незразумела.

Ша-Ша глядзеў на мяне знізу ўверх, і здавалася, што ён стаў яшчэ меншым, чым быў на самай справе. Але камандаваў ён вельмі ўпэўнена.

— Так, Света, паднімай левую нагу.

Я паслухмяна падняла.

— Цяпер апускай.

Я апусціла.

— Яшчэ раз!

Я паўтарыла.

— Ну вось! — задаволена сказаў Ша-Ша. — Ты боўтаеш левай нагой!

Я паглядзела ўніз і крыху пабоўтала левай нагой.

— Так, цяпер правай!

Я пабоўтала правай.

— А цяпер абедзвюма!

Вельмі асцярожна я пабоўтала абедзвюма нагамі. Канечне, у мяне не атрымалася так лёгка і ўпэўнена, як паказваў Ша-Ша. Але ўсё-такі атрымалася.

Увесь вечар мы з Ша-Шам боўталі нагамі: я — на буфеце, ён — на табурэтцы. А потым стаміліся і леглі спаць.

Гэта вельмі карысны занятак — боўтаць нагамі. Ад яго ў любое надвор'е паляпшаецца настрой і хочацца ўсміхацца. Калі боўтаеш нагамі, адчуваеш сябе маленькай і лёгкай. Здаецца, вось-вось — і ўзляціш. Цяпер я ўмею. Толькі вось крышку стамляюся — не прывыкла.

## ЧАСТКА ПЯТАЯ,
у якой мяне знаёмяць з паласатымі зайцамі — Разынкай і Шпінатам

Вечарамі мы з Ша-Шам чыталі лісты. Ён піў малако, я ела грэчневую кашу. Я прынесла з працы адну вельмі прыгожую водарасць у слоіку, і мы разам яе разглядалі. А потым боўталі нагамі: ён — на табурэтцы, а я — на буфеце.

Праз колькі дзён Ша-Ша запытаў:

— Света, а ў цябе пальчаткі вязаныя ёсць?

Ёсць, але зараз жа лета... Навошта табе?

— Я навучу цябе рабіць зайцоў з пальчатак.

Я палезла ў шафу, дзе схавала ўсю зімовую вопратку, а Ша-Ша пачаў тлумачыць:

— Часам выдаюцца надзвычай сумныя дні. Здараецца, што сумна табе. Здараецца — некаму побач з табой. Здараецца, што нехта побач нават плача. У такіх выпадках патрэбна маленькая нечаканая радасць. Тады можна зрабіць зайца з вязанай пальчаткі. І ён абавязкова распавядзе што-небудзь цікавае і незвычайнае. Здараецца, што ты не можаш сказаць штосьці блізкаму чалавеку, прызнацца ў чымсьці. Калі зрабіць зайца, то ён абавязкова скажа гэта за цябе. Таму што насамрэч заяц — вельмі смелая жывёла.





Я стаяла на табурэтцы, слухала і трымала ў руках пальчаткі. Як яны могуць ператварыцца ў зайцоў? Незразумела...

— У мяне толькі паласатыя, — прамовіла я.

— Значыць, мы будзем рабіць паласатых зайцоў.

Мы з Ша-Шам селі за стол, і ён пачаў паказваць. Пальчатку трэба пакласці на стол «далонню» ўверх, скласці вялікі палец, безыменны і мезенец разам, а потым схаваць іх пад некалькімі адваротамі манжэты. З адваротаў атрымліваецца галава, а з пальцаў, што засталіся, — вушы.

Ша-Ша апрануў пальчатку на руку і паварушыў вушамі. Заяц ажыў.

Канечне, мне адразу ж захацелася, каб заяц з'явіўся і на маёй руцэ. Я хутка зрабіла яго з другой пальчаткі.

Вячэру мы гатавалі на чацвярых: мяне, Ша-Шу і двух паласатых зайцоў — Разынку і Шпіната. За вячэрай мы з Ша-Шам сядзелі моўчкі, а зайцы спявалі, чыталі вершы, расказвалі смешныя гісторыі і прыдумвалі казкі.



А потым зайцы ператварыліся ў звычайныя паласатыя пальчаткі. Я не стала прыбіраць іх у шафу, а паклала на паліцу бліжэй, каб паласатыя госці бывалі ў нас часцей.

## ЧАСТКА ШОСТАЯ,
## дзе словы лётаюць у лесвічным пралёце

Мы з Ша-Шам разам боўталі нагамі, чакалі ў госці зайцоў, часам глядзелі ў акно. Я хітравала, калі вярталася з працы. Я ведала, што Ша-Ша павінен навучыць мяне тром рэчам. Засталася адна. І я стала пакідаць правы чаравік за дзвярыма, а ў кватэру ўваходзіла ў адным левым. Віталася, як заўсёды, і даставала малако з пакета. Ша-Ша бачыў гэта, але быццам бы не заўважаў.

Калі я зноў увайшла ў кватэру ў адным чаравіку, Ша-Ша строга прамовіў:

— Зараз жа абувай другі чаравік!

Я збянтэжылася з-за таго, што Ша-Ша звярнуў увагу на мае хітрыкі, і пачала хвалявацца:

— Навошта?

— Мы пойдзем на лесвічную пляцоўку, пакуль у доме яшчэ ніхто не спіць.

— Навошта?

— Абувай чаравік — зараз пабачыш, — падміргнуў Ша-Ша.

Я жыву на сёмым паверсе прыгожага старога дома з высокімі столямі. На лесвічнай пляцоўцы выкладзены фантастычныя ўзоры — чароўныя кветкі. А ў лесвіцы — крышку больш прыступачак, чым у тых дамах, што пабудавалі не так даўно.

— Ты ведаеш, якое рэха жыве ў пад'ездзе? — Ша-ша выйшаў за мной і чакаў, пакуль я завяжу шнурок.

Ён падышоў да парэнчаў і прагаварыў уніз праз усе сем паверхаў:

— Раз, два, тры, чатыры, пяць, выйшаў зайчык пагуляць!



Словы паляцелі ўніз, нібыта на парашуціках, плаўна і прыгожа. І калі хто-небудзь у гэты момант падымаўся альбо спускаўся па лесвіцы, то ён мог ва ўсіх падрабязнасцях разгледзець і пачуць іх палёт.

Я даўно завязала шнуркі і слухала, як ляціць уніз лічылка. Ша-ша павярнуўся:

— Хадзі сюды!

Я падышла да парэнчаў.

— Тут добра спяваць уніз якое-небудзь слова. Што праспяваем?

Я задумалася:

— Ну, давай праспяваем слова «аловак».

І мы заспявалі ўніз:

— А-а-а-а-а-ало-о-о-о-ова-а-а-а-а-ак! Ало-о-о-о-овак! Алова-а-а-а-ак!

Словы-алоўкі паволі апускаліся з сёмага паверху. Унізе грукнулі дзверы, і я скеміла:

Слухай, Ша-Ша, у пад'езд жа ўвесь час нехта заходзіць і з яго нехта выходзіць... А давай мы будзем спяваць «Добры дзень!» ці «Да пабачэння!».

— А як мы дазнаемся, выходзіць чалавек ці ўваходзіць?

— Давай спяваць па чарзе: адзін раз «Добры дзень!», а другі — «Да пабачэння!», — прапанавала я.

Мы слухалі, як грукалі дзверы, і спявалі «До-о-обры дзе-е-ень!» ці «Да-а-а пабачэ-э-энння!».

І спеў з аднаго слова ляцеў уніз, вітаў ці праводзіў гасцей і суседзей.

Мы спявалі ў лесвічны пралёт, пакуль не сцямнела, а потым, калі ў пад’ездзе запалілі святло, пайшлі дадому: а раптам хто-небудзь рана кладзецца спаць і мы будзем яму перашкаджаць?

## ЧАСТКА СЁМАЯ,
### вельмі сумная, таму што Ша-ша ўлазіць у правы чаравік

Заўтра я ізноў паўтарыла манёўр з чаравікамі і ўвайшла ў кватэру ў адным левым. Ша-Ша сустрэў мяне ўсмешкай:

— Нясі правы ў кватэру! Мне ўсё роўна трэба сыходзіць. Я ўжо навучыў цябе тром рэчам.

Я моўчкі апусціла галаву. Расставацца з Ша-Шам не хацелася. Я прывыкла штовечар купляць малако і боўтаць нагамі...

— Света, я ж і праз тапачку магу сысці, і праз туфель-лодачку. Проста гэта вельмі нязручна. Так што давай нясі другі чаравік. Тым больш што лезці мне ў яго толькі заўтра, — прамовіў Ша-Ша.

Я выйшла на лесвічную пляцоўку і забрала чаравік.

Ша-Ша выйшаў за мной, і мы крышку паспявалі ў лесвічны пралёт. Я папрасіла спяваць толькі «До-о-обры дзень!», таму што «Да пабачэ-э-эння!» спяваць было вельмі сумна.

Потым мы з Ша-Шам запрасілі на вячэру зайцоў — Разынку і Шпіната. Крышку пабоўталі нагамі. Потым Ша-Ша развітаўся з бягоніяй і вадарасцю, з якімі пасябраваў. І мы леглі спаць.



Раніцай Ша-Ша абняў мяне. Улез у правы чаравік і знік. Каб вылезці вечарам у іншай кватэры і навучыць некага тром адмысловым рэчам. А я абула чаравікі і пайшла на працу...

## ЧАСТКА ВОСЬМАЯ,
### пра халадзільнік, у якім заўсёды стаіць пакет малака

Мне далі заробак, і я набыла сабе тыя самыя сандалі з тоненькімі раменьчыкамі. У мяне дома жыве сабака — спаніэль Абажур. Я вырошчваю водарасці. Чытаю Вельмі Важныя Лісты з Самых Далёкіх Краін. А часам перачытваю кнігі пра разведчыкаў, ем марожанае. А калі мне бывае вельмі-вельмі сумна ці вельмі-вельмі весела, я выходжу паспяваць у пад'езд, калі яшчэ не позна і ніхто не спіць. Час ад часу я ўзбіраюся на буфет і боўтаю нагамі. Бывае, што я запрашаю да сябе ў госці каго-небудзь з зайцоў — ці Разынку, ці Шпіната. І зайцы распавядаюць нам з Абажурам розныя гісторыі...

І яшчэ я ўважліва прыглядаюся да сваіх чаравікаў, асабліва да левага. А раптам з'явіцца Ша-Ша? А раптам зойдзе ў госці? А раптам спатрэбіцца мяне яшчэ чаму-небудзь навучыць? Такому, на што нельга забывацца, і трэба адразу пачынаць гэта рабіць, калі табе сумна ці весела.

У маім халадзільніку заўсёды стаіць пакет малака. На ўсялякі выпадак.



# ЗМЕСТ

## Вера і шытыя сланы



## Ша-Ша з левага чаравіка



